наша свабода

№108(195) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 КАСТРЫЧНІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# На ягоным месцы мог апынуцца кожны

*Новы прэм'ерскі выбар Аляксандра Лукашэнкі здзівіў многіх. Імя Генадзя Навіцкага, які на працягу апошніх чатырох гадоў займаў віцэ-прэм'ерскую пасаду, ніколі не фігуравала ў спісе лукашэнкаўскіх фаварытаў.*

Але насамрэч гэтае прызначэнне, якое яшчэ мае быць зацверджанае палатай прадстаўнікоў 10 кастрычніка, чарговы раз даказала: у кіраўніцтве Беларусі ёсць толькі адзін палітык – А.Лукашэнка. Усе астатнія – паслухмяныя выканаўцы, шэрыя цені патрона. Нездарма кіраўнік Беларусі, калі ў панядзелак прадстаўляў ураду новага кіраўніка, адзначыў у «шорт-лісце» ягоных якасцяў выканальнасць. Самастойныя фігуры А.Лукашэнку проста непатрэбныя.

Як узгадвалі ягоныя былыя калегі па Вярхоўным савеце 12-га склікання, цяперашняму кіраўніку краіны карціла выступаць па любых пытаннях – ад штучнага асемянення кароваў да глабальных праблемаў правоў чалавека. Відавочна, што не меншае кола інтарэсаў захавалася ў яго і зараз. На жаль, А.Лукашэнка не чытае кнігаў нават па асновах кіравання – інакш бы даўно ведаў, што больш рацыянальна размеркаваць нагрузку па прафесійна падрыхтаваных падначаленых, чым кантраляваць усё самому.

Цяпер ужо смела можна казаць, што Генадзь Навіцкі – прэм'ер, які не адказвае ні за што. За яго ўсё даўно вырашылі ў прэзідэнцкай адміністрацыі. Яму не далі сфарміраваць Савет міністраў – але ж гэта людзі, у якіх ён мусіць быць перакананы на 100%, на якіх можа разлічваць у цяжкія часы, яны мусяць быць адначасова і ягонымі аднадумцамі, і высокакваліфікаванымі прафесіяналамі кожны ў сваёй справе. Г.Навіцкаму нават не даверылі падабраць сабе намеснікаў – усё зрабіў за яго А.Лукашэнка.



Фота IREX/ProMedia

«Кіраваць урадам мог бы кожны...» У цэнтры – Генадзь Навіцкі, злева – Аляксандр Кулічкоў, справа – Леанід Сініцын. Архіў, студзень 1996 г.

Канешне, в.а старшыні Савета міністраў – не новы чалавек ва ўрадзе, ён ведае большасць сваіх калегаў. Але гэтага відавочна недастаткова для таго, каб пачуваць сябе гаспадаром у прэм'ерскім кабінеце.

Той факт, што яго заўважылі і «выхапілі» з абоймы васьмі віцэ-прэм'ераў і ўзнялі над астатнімі, можа нарадзіць не толькі гонар за свае выбітныя здольнасці, але і небяспеку ўнутрыўрадавых інтрыгаў.

Сапраўды, хіба Андрэй Кабякоў або Аляксандр Папкоў, якія працавалі поруч з Генадзем Навіцкім, могуць прызнаць, што працавалі горш? Але абодвух іх пакінулі на старых пасадах, а ў А.Кабякова яшчэ і адабралі «першаснасць».

*Заканчэнне на стар.3*

## Ту-154 с израильтянами на борту взорвали террористы

Причиной катастрофы Ту-154, который в четверг упал в Черное море, стал взрыв на борту авиалайнера. Об этом сообщили «Интерфаксу» источники в российских силовых структурах.

Самолет авиакомпании «Сибирь» (бортовой номер 85693) выполнял рейс № 1812 из Тель-Авива в Новосибирск.

По данным МЧС РФ, катастрофа произошла в 13:45 по московскому времени в 185 километрах юго-западнее Сочи. На борту авиалайнера находились 66 пассажиров и 11 членов экипажа.

Все 66 пассажиров, находившихся на борту рухнувшего в Черное море самолета Ту-154, были израильтянами, сообщает НТВ. Об этом заявили журналистам пресс-секретарь израильского аэропорта «Бен Гурион» и министр транспорта Израиля Эфраим Снэ. По словам Эфраима Снэ, этим рейсом, возможно, летел высокопоставленный российский чиновник, который проводил в Израиле консультации по вопросам обеспечения безопасности на транспорте в связи с недавними терактами в США.

Рядом с лайнером пролетал самолет Ан-24 армянских авиалиний, который следовал по маршруту Симферополь-Ереван. Его командир заметил взрыв на борту Ту-154 и падение обломков самолета в море.

Министр транспорта Израиля Эфраим Снэ уже заявил, что причиной катастрофы Ту-154, на борту которого в основном находились израильтяне, стал теракт.

По поручению президента России Владимира Путина комиссию по расследованию причин крушения возглавил секретарь Совета безопасности Владимир Рушайло.

В 14.27 к месту падения Ту-154 вылетели военный самолет Ан-12 и спасательный вертолет Ми-8. Туда же направились буксиры из Новороссийска и Туапсе.

**АДУКАЦЫЯ**

## Семінарыя ў Пінску

У Пінску (Брэсцкая вобласць) адкрылася вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Томаша Аквінскага, яна будзе рыхтаваць каталіцкіх ксяндзоў для беларускіх касцёлаў.

Раней у гэтым горадзе існавала Пінская духоўная семінарыя, якая была закрыта пасля далучэння Заходняй Беларусі да Усходняй. У 1939 годзе Пінскую семінарыю скончыў цяперашні кіраўнік каталіцкай царквы ў Беларусі, кардынал Казімір Свёнтэк, пасля чаго быў прызначаны парафіяльным вікарыем у Пружаны. Менавіта кардынал стаў ініцыятарам адраджэння семінарыі і зараз з'яўляецца яе рэктарам.

Што тычыцца святога Томаша Аквінскага, імя якога носіць семінарыя, то ў свой час гаварылі так: «сярод вучоных ён быў святым, а сярод святых – найбольшым вучоным». Доктар тэалогіі Т.Аквінскі імкнуўся прымірыць веру з ведамі, яго філасофска-тэалагічная сістэма стала вяршыняй артадаксальнай схаластыкі і з 14 стагоддзя была вядучым кірункам каталіцкай філасофіі. З 1323 года Папа Ян XXII вынес імя Томаша на алтар святых.

Размешчана вышэйшая духоўная семінарыя ў адрэстаўраваным францысканскім комплексе. У Пінскім кафедральным саборы Прачыстай Дзевы Марыі з гэтай нагоды адбылося святочнае набажэнства, якое правёў кардынал Казімір Свёнтэк. К.Свёнтэк прыняў сімвалічны ключ ад дырэктара рэстаўрацыйнай фірмы «Рэнаватар», якая аднаўляла будынак. На адкрыцці семінарыі прысутнічалі прадстаўнікі духавенства з Беларусі, Расіі, Польшчы, свецкія госці, у тым ліку старшыня Пінскага гарвыканкама Васіль Шуст. Віншаванні і найлепшыя пажаданні ад кіраўніка рымска-каталіцкай царквы перадаў папскі нунцый Дамінік Грушэўскі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Правда по- могилёвски

Правоохранительные органы Могилева упорно демонстрируют своё нежелание знать правду о судьбе похищенных оппонентов нынешних властей. Вечером 30 сентября в центре города сотрудниками милиции с применением физической силы были разогнаны около трёх десятков людей, стоявших с портретами Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Геннадия Карпенко, Дмитрия Завадского, Анатолия Красовского.

Среди задержанных – председатель Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько, лидеры могилёвских «граждан» Владимир Гайдуков и Валерий Сивуха, а также участник акции А.Гиркин. В отношении задержанных составлены протоколы по статье 167 ч.1 (организация несанкционированного пикета). Анатолию Лебедько инкриминируется ещё и оказание сопротивления милиции.

Лидер ОГП так прокомментировал инцидент: «Недавно Александр Лукашенко призвал всех собирать камни и общими усилиями строить храм. Боюсь, что в храме-новостройке будут зарешёченные окна, и прогуливаться мы будем только по внутреннему дворику под присмотром усатого надзирателя. В Страсбурге депутатам Парламентской Ассамблеи раздают обещания Лукашенко «завязать» со своим грязным прошлым, а в это время в Могилёве, Шклове, Кричеве, десятках других регионов людей избивают, увольняют с работы, исключают из учебных заведений. Власти обещают освободить политзаключённого Андрея Климова – и параллельно возбуждают уголовные дела в Кричеве против Неровного, в Шклове — против Мигурского и других активистов демократического движения. За новыми словами просматривается старая политика».



Фота IREX/ProMedia

## Винкельман уехал – дружба Германии с Лукашенко продолжается

В четверг Минск покинул германский посол Хорст Винкельман, чей дипломатический срок закончился еще летом.

На приеме по случаю своего отъезда из Беларуси он обменялся примечательными речами с присутствовавшим там же главой президентской администрации Уралом Латыповым.

«Несмотря на скептические оценки, хорошие отношения Германии с Беларусью будут развиваться. В этом меня еще раз убедила сегодняшняя встреча с Президентом Республики Беларусь Александром Григорьевичем Лукашенко», — заявил Х.Винкельман. Хотя он выступал на немецком, где все существительные пишутся с большой буквы, слово «президент» он произнес с особенно большой буквы, как и не принятое по-немецки отчество («Григорьевич»).

Хотя на приеме присутствовал министр иностранных дел Беларуси Михаил Хвостов, с ответной речью выступил не он, а его предшественник Урал Латыпов — нынешний глава администрации президента.

«Германия никогда не опускалась до изоляции Беларуси, — отметил У.Латыпов и добавил: — У Германии нет того высокомерия, которое иногда присутствует в отношении больших стран с малыми».

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

*Працяг тэмы на стар. 3.*

## Перадстрайкавы стан

Працоўныя завода «Водапрыбор», што ў Бабруйску, заявілі, што гатовыя распачаць страйк у выпадку, калі адміністрацыя не выплаціць ім запазычаны за некалькі месяцаў заробак на працягу двух тыдняў.

## Абрабавалі «песняра»

У Мінску абрабаваны вядомы спявак, саліст ансамбля «Песняры» Леанід Барткевіч. Як паведаміла Радыё «Рацыя», абрабаванне ўчынена сярод белага дня, у самым цэнтры беларускай сталіцы. Прыкладна а 13-ай гадзіне трох невядомых хлопцаў спынілі спадара Барткевіча на праспекце Машэрава і накінуліся на яго. Рабаўнікі завалодалі 3,5 тысячамі долараў, 300 тысячамі беларускіх рублёў, двума залатымі пярсцёнкамі, залатым ланцужком і сотавым тэлефонам.

## Абяцанні настаўнікам

Выконваючы абавязкі міністра адукацыі Васіль Стражаў паабяцаў, што ў лістападзе заробак настаўнікаў складзе 100 долараў. А наогул па сістэме адукацыі гэтая лічба па заработнай плаце будзе дасягнутая на пачатку наступнага года.

## Ад «нуля» да «дзесяткі»

З наступнага навучальнага года ва ўсіх вышэйшых навучальных установах будзе ўведзеная дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў. Зараз яна выкарыстоўваецца ў 300 агульнаадукацыйных школах і была апрабаваная падчас апошняй абітурыенцкай кампаніі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

## У Мсціславе разбіраюць помнік

У Мсціславе невядомыя пашкодзілі помнік першадрукару Пятру Мсціслаўцу, які быў устаноўлены тут 2 верасня падчас святкавання Дня беларускай пісьмовасці. Спачатку з пастамента прапаў надпіс «Пётр» вагой каля 5 кілаграмаў, зараз знік надпіс «Мсціславец» вагой каля 10 кілаграмаў. Надпіс на помніку пафарбаваны бронзавай фарбай, таму зламыснікі маглі падумаць, што ён выраблены якраз з гэтага металу. Насамрэч ён з чыгуну.

## Гарэлка падаражэла

Падаражанне на белую гарэлку склала 5 працэнтаў. Зараз у рознічным продажу паўлітровая «вінтавая» бутэлька гарэлкі «Крышталь-100» каштуе 1.939 рублёў (раней – 1.851), «Белая Русь», «Крышталь-люкс» – 2.001 (1.910), «Белая Русь – люкс», «Крышталь-люкс новы» – 2.074 (1.979). Цяперашняе павышэнне кошту гарэлкі стала сёлета сёмым. Папярэднія адбыліся 12 студзеня, 9 лютага, 4 сакавіка (кожны раз – на 3,5%), 3 красавіка, 5 траўня і 5 чэрвеня (на 4%). З пачатку года гарэлка падаражэла на 31%.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1500**

ДЭМАГРАФІЯ

## Беларусаў стане менш

Паводле дэмаграфічных прагнозаў ААН і беларускіх спецыялістаў, да 2050 года насельніцтва Беларусі можа зменшыцца на 2 мільёны чалавек. Пра гэта паведаміла намеснік міністра працы Беларусі Алена Колас, выступаючы 3 кастрычніка ў Мінску на семінары па праблемах рэпрадуктыўнага здароўя падлеткаў і моладзі. Па словах Колас, высновы спецыялістаў абумоўленыя тым, што пачынаючы з 1993 года ў Беларусі назіраецца такая з'ява, як дэпапуляцыя; у выніку колькасць насельніцтва краіны зменшылася амаль на 300 тысяч чалавек.

Характэрнымі рысамі абвастрэння дэмаграфічнай сітуацыі з'яўляюцца скарачэнне нараджальнасці, рост смяротнасці, старэнне насельніцтва, а таксама скарачэнне працягласці жыцця. У Беларусі за перыяд з 1990 года каэфіцыент нараджальнасці знізіўся на 34,5% і склаў 9,1 чалавека на 1 тысячу насельніцтва; узровень смяротнасці за гэты ж перыяд узрос на 26%. На 2,7 года скарацілася працягласць жыцця.

**Вольга АСІПЕНКА**

## Кошт меншы, а крыві больш

Да апошняга дня кастрычніка распісаная наперад чарга на здачу крыві ў Маларыцкай паліклініцы Брэсцкай вобласці. У гэтым маленькім райцэнтры з адным прамысловым прадпрыемствам (гароднінасушыльны завод) беспрацоўе вымушае людзей прадаваць сваю кроў дзеля грошай. Але калі яшчэ ў летнія месяцы за дозу 425 грамаў плацілі 2 мінімальныя зарплаты, то зараз выйшаў загад зменшыць аплату да 1,5 «мінімалак».

**Галіна БАРАВАЯ**

## МАЗ мусіць быць беларускім



Незарэгістраваная арганізацыя Малады Фронт правяла акцыю супраць продажу Мінскага аўтамабільнага завода.

Маладафронтаўцы сталі каля прахадной МАЗа і пачалі скандаваць «МАЗ – беларускі», але адразу ж з'явіліся міліцыянты і людзі ў штацкім. Вынік – дзесятак затрыманых. Апрача таго, было затрымана 5 тысяч улётак, якія актывісты МФ збіраліся раздаць МАЗаўскім рабочым. Калі б яны патрапілі да працоўных завода, то тыя маглі б прачытаць наступнае: «Сёння МАЗ прадаюць расійскім алігархам. «Сибирский алюминий» і Дзерыпаска плануюць звольніць тысячы працоўных, каб атрымаць сабе новыя мільёны долараў прыбытку. Валюта ад продажу нашых МАЗаў пойдзе не вам, не на добраўпарадкаванне горада, не на пад'ём завода, а ў кішэні расійскай мафіі».

Затрыманых маладафронтаўцаў, у тым ліку іхняга лідэра Паўла Севярынца, даставілі ў Заводскі РУУС, дзе пачалі дапытваць і абшукваць. Як паведамляе прэс-служба Маладога Фронту, «пры затрыманні прадстаўнікі ўлады паводзілі сябе вельмі груба, лаяліся рускім матам».

Нягледзячы на разгон пікета каля прахадной МАЗа, у МФ маюць намеры правесці бліжэйшым часам яшчэ цэлы шэраг акцыяў пратэсту супраць продажу беларускіх прадпрыемстваў расійскаму капіталу. Яны пройдуць на магілёўскім «Хімвалакне», гродзенскім «Азоце», наваполацкіх «Нафтане» і «Паліміры», Жлобінскім металургічным заводзе, на «Беларуськаліі» ў Салігорску, зноў на МАЗе і «Крыніцы» ў сталіцы.

**Кірэй МАНУЙЛА**

АСВЕТА

## Ліцэй уключаны ў школу

З 2 кастрычніка Светлагорскі філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя (НДГЛ) імя Якуба Коласа ўключаны ў склад гарадской сярэдняй школы № 1.

Пра гэта БелаПАН паведаміў дырэктар філіяла Тэльман Маслюкоў. Пры гэтым ён зазначыў, што выкладчыкамі філіяла распрацаваныя прапановы па рэарганізацыі навучальнай установы, якія 1 кастрычніка прынятыя гарадскімі ўладамі. Падрыхтаваныя рэкамендацыі дазволяць захаваць праграму навучання, склады беларускіх гуманітарных ліцэйскіх класаў, калектыў выкладчыкаў і справаводства. Апрача таго, за ліцэйскімі класамі замацоўваюцца ўсе раней набытыя навучальныя сродкі, уключаючы бібліятэчны фонд. Разам з тым улады горада адмовіліся захаваць за ліцэйскімі класамі будынак, у якім плануецца размясціць Дом дзіцячай і тэхнічнай творчасці.

З Нацыянальным ліцэем імя Я.Коласа мяркуецца заключыць дамову аб навукова-метадычным кіраванні і супрацоўніцтве, якое дазволіць светлагорскім ліцэістам браць удзел у акцыях НДГЛ. Дырэктар філіяла спадзяецца, што рэалізацыя гэтых прапановаў дазволіць у будучым аднавіць працу Светлагорскага філіяла НДГЛ у яго ранейшай форме або стварыць гарадскі ліцэй замест сярэдняй школы № 1.

**Марат ГАРАВЫ**

## 4-мільярдная запазычанасць

Згодна з аператыўнымі звесткамі на 3 кастрычніка, сума пратэрмінаванай запазычанасці па выплаце заработнай платы работнікам прадпрыемстваў і арганізацыяў народнай гаспадаркі Магілёўскай вобласці складала 4 мільярды рублёў.

Каля 600 мільёнаў з гэтай сумы прыпала на прадпрыемствы жыллёвай гаспадаркі, 300 мільёнаў — на прамысловыя прадпрыемствы, большая частка астатніх грошай — даўгі перад работнікамі сельскай гаспадаркі.

Як заявіў 3 кастрычніка старшыня Магілёўскага аблвыканкама Барыс Батура, большая частка даўгоў па заработнай плаце будзе пагашаная да канца гэтага тыдня. Пры гэтым ён не выключыў, што шэраг сельскіх гаспадарак (па 3-4 у кожным раёне) не змогуць разлічыцца са сваімі работнікамі. Магчыма, у калгасах, што не маюць дастаткова прадукцыі, работнікам у лепшым выпадку будуць выплачаныя сумы на ўзроўні мінімальнага спажывецкага бюджэту.

**Канстанцін УВАРАЎ**

ЗДАРЭННІ

## Гарбачоў пагарэў

100 тон сена згарэла ў выніку пажару, які адбыўся ўвечары 2 кастрычніка ў сенасховішчы калгаса імя М.Гарбачова, размешчанага ў вёсцы Старыя Юрковічы Любанскага раёна Мінскай вобласці. Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе міністэрства па надзвычайных сітуацыях, прычына пажару ўстанаўліваецца.

Усяго, паводле звестак міністэрства па надзвычайных сітуацыях, за мінулыя суткі ў краіне адбылося 30 пажараў. У выніку аднаго з іх загінуў чалавек — пенсіянер, які жыў у Полацку, у прыватным доме па вуліцы Тусналобавай-Марчанка. Пажар адбыўся з-за неасцярожнасці гаспадара дома пры курэнні. Агульны матэрыяльны ўрон ад пажараў перавысіў 16 мільёнаў рублёў; падраздзяленням МНС удалося выратаваць матэрыяльныя каштоўнасці на суму 44,7 мільёна рублёў.

**Марат ГАРАВЫ**

## У казармах Белавежжа — нямецкі бізнес

Усе новыя сёлета працоўныя месцы ў Камянецкім раёне створаныя у былых казармах савецкіх ракетчыкаў ля лясной вёскі Дворцы. Гэта набытая ўласнасць сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства «Санта-імпэкс-Брэст», якое спецыялізуецца на перапрацоўцы рыбы, вытворчасці мінеральнай вады і сокаўтрымліваючых кактэйляў. Дзякуючы нямецкім інвестыцыям ужо 70 месцічаў, у тым ліку тыя, хто абслугоўваў і пільнаваў сакрэтныя «ствалы», узнятыя на Захад, робяць карысную для людзей справу. Да свята Новага года, прыкладам, тут пачнуць выпускаць яшчэ і два гатункі безалкагольнага шампанскага — шакаладнае і персікавае.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ЛЮСТРАФАКТ



Так, затрыманнем старшыні АГП А.Лябедзькі скончыўся пікет у Магілёве «Хотим знать праўду»

## Загінуў пры крадзяжы

У Ляхавіцкім раёне загінуў жыхар Баранавічаў. Труп 41-гадовага мужчыны быў знойдзены трактарыстам, які прыехаў араць поле. Мёртвае цела трымалася на слупе лініі электраперадач непадалёк ад вёскі Адахоўшчына дзякуючы манцёрскім кіпцюрам. Асобу загінуўшага ўдалося ўстанавіць праз пяць дзён.Высветлілася, што ў сям'і мужчына сказаў, што паедзе на рыбалку. Менавіта таму жонка ў міліцыю з заявай аб знікненні не звярталася. У аператыўнікаў няма сумнення, што загінуўшы спрабаваў выкрасці электрычны провад.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

СІЛАВІКІ

## Антытэрарысты выратавалі беларуса

З-за лішняй уласнай даверлівасці патрапіў на «кручок» банды замежных рэкеціраў у Польшчы малады прадпрымальнік з Берасця Юрый А. Напрыканцы верасня ён быў выкліканы праз знаёмых па бізнесе партнёраў нібыта для пракруткі звышпрыбытковай камерцыйнай здзелкі, а на месцы патрапіў да вымагальнікаў з ліку грамадзянаў Польшчы, Украіны і Расіі. Ад «новага» беларуса яны патрабавалі выкуп у памеры 50 тысяч долараў. А паколькі такой вялікай сумы пры сабе не было, то Юрый А. апынуўся ў ролі закладніка і пад прымусам фізічных катаванняў быў вымушаны тэлефанаваць у Брэст жонцы і прасіць сабраць валюту.

Тая звярнулася за дапамогай у Камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Рэакцыя польскай крымінальнай паліцыі на сігнал з Беларусі была імгненнай. Трое аператыўнікаў з Брэста атрымалі дазвол на перамяшчэнне праз мяжу і цягам усяго двух сутак пры непасрэдным удзеле антытэрарыстычнага атрада паліцыі Польшчы закладнік быў вызвалены, а злачынцы арыштаваныя.

У сваіх каментарыях аб паспяховым узаемадзеянні ў аперацыі супраць тэрарыстаў на тэрыторыі Польшчы міліцэйскія чыны ў Берасці прагаворваюцца пра праблемы на супрацьлеглым накірунку. У гарадах Расіі зараз «ашываюцца» некалькі дзесяткаў уцекачоў ад беларускага правасуддзя, але ніхто не называе прыкладу, каб вяртанне іх адбывалася без папяровай валакіты і адміністрацыйнай цяганіны.

**Галіна БАРАВАЯ**

КАМУНІКАЦЫІ

## Зношаны транспарт

Сёння ў беларускай сталіцы знос трамваяў складае 49, тралейбусаў — 59,7, аўтобусаў – 63%. Такія звесткі прывёў намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Пётр Сямашка на сустрэчы членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі з кіраўніцтвам Мінгарвыканкама і Мінгарсавета.

Цяпер грамадскі транспарт Мінска складаецца з 1.300 аўтобусаў (з улікам прыгарадных — 1.715), 1.001 тралейбуса і 158 трамваяў. Штодзённа на лінію выходзяць 830 аўтобусаў, 758 тралейбусаў і 119 трамваяў, якія ажыццяўляюць у агульнай складанасці 30 тыс. рэйсаў, перавозячы 2 млн. пасажыраў (у пікавыя дні — да 2,5 млн.) па 157 аўтобусных, 66 тралейбусных і 9 трамвайных маршрутах. Апрача таго, 37 саставаў на дзвюх лініях метрапалітэна выконваюць у дзень каля 1.300 рэйсаў. На ўтрыманне грамадскага транспарту выдаткоўваецца 15% гарадскога бюджэту.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**



## Мізэрнае раскрыццё злачынстваў

За 9 месяцаў гэтага года ў Мінску зарэгістравана 14.715 злачынстваў — на тысячу менш, чым за той жа леташні перыяд. Пра гэта на сустрэчы з журналістамі 1 кастрычніка паведаміў першы намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення ўнутраных справаў Мінскага гарвыканкама Восіп Міхалковіч. З названай колькасці злачынстваў, паводле яго словаў, раскрыта ўсяго 5.542.

Асаблівую занепакоенасць, паводле словаў Міхалковіча, выклікаюць рабаўнікі: з пачатку года імі ўчынена 934 разбойныя напады, у тым ліку 204 — на кватэры грамадзянаў. Супрацоўнікам міліцыі ўдалося раскрыць толькі 43% такіх злачынстваў, якія, дарэчы, часцей за ўсё адбываюцца ў першай палове дня.

Шырокае распаўсюджанне ў апошні час атрымалі камп'ютэрныя злачынствы. «Нашы хакеры прызнаныя лепшымі ў свеце», — заявіў Міхалковіч. Толькі сёлета было зарэгістравана 400 камп'ютэрных злачынстваў, што, як правіла, учыняюць маладыя людзі ва ўзросце да 20 гадоў. Беларускія хакеры, паводле яго словаў, сур'ёзна непакояць краіны Заходняй Еўропы і ЗША. У гэтай сувязі Мінск нядаўна наведалі агенты ФБР і супрацоўнікі паліцыі Германіі. І хаця непасрэднай шкоды інтарэсам роднай дзяржавы беларускія хакеры пакуль не нанеслі, у структуры сталічнай міліцыі створанае адпаведнае падраздзяленне, адзначыў першы намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама.

**БелаПАН**

МАСТАЦТВА

## Выстава-прысвячэнне Платону

2 кастрычніка ў Мінску ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстава «Бяседа». На ёй дэманструюцца маляўнічыя палотны Рамана Кароткіна, напісаныя ў класічнай манеры, і сучасныя фатаграфіі Аляксея Паўлюця, выкананыя ў тэхніцы фота-арта. Прадстаўленыя творы ствараліся спецыяльна для гэтага праекта і раней нідзе не выстаўляліся. Выстава з'яўляецца адмысловым прысвячэннем творчасці старажытнагрэчаскага філосафа Платона (IV стагоддзе да нашай эры), які напісаў аднайменную працу «Бяседа» (часам узгадваецца як «Размовы пра каханне»). Ён лічыцца асноватворцам гэтак званых сімпосіяў — філасофскіх гутарак падчас застолля.

Героі Кароткіна і Паўлюця таксама звяртаюцца да віна і вядуць размову. Гэта гутарка мужчыны і жанчыны адзін з адным, з прыродай і культурай. Ігра колеру і пластыкі, тэхналогіі і традыцыі, інтуіцыі і сэнсу нагадваюць пра супярэчнасці і зменлівасць, логіку і парадаксальнасць чалавечага жыцця.

Як зазначыў Раман Кароткін, у сваім маляўнічым цыкле ён прадставіў метафару зямнога быцця з яе найбольш значнымі падзеямі. «Для мяне бяседа — наталенне пастаяннага творчага голаду», — падкрэсліў мастак.

Па словах Аляксея Паўлюця, удзел у такім нетрадыцыйным сумесным праекце дазволіў яму больш поўна рэалізаваць свае мастацкія задумы фотамастака.

Выстава «Бяседа» будзе экспанавацца да 1 лістапада.

**Марат ГАРАВЫ**

# На ягоным месцы мог апынуцца кожны

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Андрэя Кабякова, дарэчы, некаторыя прадвызначалі на прэм'ерскае месца замест Уладзіміра Ярмошына, які недастаткова актыўна праявіў сябе падчас перадвыбарнай кампаніі, ды яшчэ, па некаторых звестках, і кантактаваў з прэтэндэнтам Міхаілам Марынічам. Але выбар трапіў на іншага.

У якасці адной з тэндэнцыяў новага ўраду нельга не адзначыць: у ім рэзка паболела прадстаўнікоў з Магілёва і вобласці. Здавалася б, усе выгадныя кандыдатуры А.Лукашэнка перацягнуў у Мінск яшчэ ў час свайго першага прэзідэнцтва. Але, аказваецца, яшчэ не ўсе перспектыўныя кадры з Магілёўшчыны знайшлі сваё прымяненне ва ўрадзе.

Сярод апошніх прызначэнцаў – гэта міністр гандлю і былы магілёўскі губернатар Аляксандр Кулічкоў, старшыня Мытнага камітэта Аляксандр Шпілеўскі, новы міністр юстыцыі Віктар Галаванаў, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Віктар Камянкоў, дарадца прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму, былы міністр спорту і турызму Мікалай Ананьеў.

Як вядома, Генадзь Навіцкі нарадзіўся ў Магілёве і да 1994 года працаваў там, пераважна ў будаўнічай галіне: спачатку майстрам будтрэста №12, потым начальнікам участка, галоўным інжынерам. Чатыры гады – з 1977 па 1981 – працаваў інструктарам аддзела будаўніцтва Магілёўскага абкама КПБ. Потым – галоўным інжынерам Магілёўскага аблміжкалгасбуда. Адтуль Г.Навіцкі вярнуўся ў абкам КПБ – але ўжо на пасаду загадчыка аддзела будаўніцтва. У 1988 ён становіцца старшынёй праўлення Магілёўскага аблсельбуда і застаецца там да выбараў першага прэзідэнта Беларусі. Той роўна праз месяц пасля свайго абрання падпісвае ўказ аб прызначэнні Г. Навіцкага міністрам архітэктуры і будаўніцтва. У 1997 годзе яго падвышаюць да намесніка старшыні ўрада, які адказвае за будаўніцтва, транспарт і сувязь. Можна смела казаць, што дзякуючы ягонай плённай працы мы сёння маем жыллё, транспарт і сувязь такімі, якімі яны ёсць. Цяпер кола ягоных абавязкаў пашыраецца, і хутка мы зможам пабачыць ягоныя поспехі і няўдачы на гэтым фронце.

Насамрэч, ужо цяпер эксперты адзначаюць, што новы ўрад – гэта «ўрад смертнікаў». Ён закліканы забяспечыць пераход краіны на рэйкі лібералізацыі, без якога рэжыму Лукашэнкі вельмі хутка прыйдуць «кранты» (гэта, дарэчы, цудоўна ўсведамляе і «гарант канстытуцыі» – інакш бы ён і далей займаўся пабудовай камунізму ў асобна ўзятай Беларусі). Пераход будзе куды больш цяжкім, чым у іншых краінаў былога савецкага лагера – бо тыя змянілі арыентацыю дзесяцігоддзе таму. Пераход – гэта непазбежнае падвышэнне цэнаў на г. зв. сацыяльныя тавары (што, дарэчы, ужо адбываецца) і на камунальныя паслугі. Электарату А.Лукашэнкі гэта відавочна не спадабаецца. Стыхійны страйк на Мінскім трактарным заводзе – першы трывожны сігнал; такіх сігналаў яшчэ назбіраецца шмат. І тады А.Лукашэнку прыйдзецца «адкрываць парашут» – ахвяраваць урадам. Для такой мэты добра падойдзе і Генадзь Навіцкі, і хто заўгодна яшчэ. Бо стварыць імітацыю кіравання краінай не так ужо цяжка – калі за тваёй спіной стаіць магутная адміністрацыя прэзідэнта і падказвае кожны наступны крок. Але, як вядома па лагерных законах, крок управа, крок улева...

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



## МТЗ не працаваў тры дні

1, 2 і 3 кастрычніка Мінскі трактарны завод не працаваў. Афіцыйнай прычынай вымушанага адпачынку трактарабудаўнікоў называецца адсутнасць камплектуючых. Вымушаныя выхадныя рабочыя МТЗ мусяць адпрацоўваць у канцы месяца па суботах. Гэта, па меркаванні старшыні пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза металістаў на МТЗ Вячаслава Козела, з'яўляецца сур'ёзным парушэннем Працоўнага кодэкса.

Між тым, пасля заканчэння стыхійнага пратэсту на Мінскім трактарным заводзе 28 верасня, калі 800 рабочых перакрылі вуліцу Даўгабродскую ў знак пратэсту супраць затрымкі заробкаў за жнівень, абстаноўку на прадпрыемстве чыноўнікі характарызуюць як «спакойную».

У мінулую суботу жнівеньскую запазычанасць на МТЗ зліквідавалі, а 1-3 кастрычніка завод адпачываў. Таму, як паведаміў Вячаслаў Козел, пакуль няма фактаў пра адміністрацыйны ці дысцыплінарны ціск на ўдзельнікаў стыхійнага пратэсту. З іншых крыніцаў, аднак, стала вядома, што пасля «Дажынак» генеральны дырэктар МТЗ Міхаіл Лявонаў ужо праводзіў уласнае разбіральніцтва «па гарачых слядах» наконт канфлікту на заводзе. Таму цалкам магчыма, што рэпрэсіі могуць пачацца пасля аднаўлення працы.

**Рыгор БУЯН**

## З-за мінскага трактарнага стала вытворчасць у Ашмянах

1 кастрычніка заводу «Радыёдэталь» (горад Ашмяны Гродзенскай вобласці) з-за запазычанасці адключылі электраэнергію. У выніку амаль 400 чалавек засталіся без работы.

Між тым, як сцвярджае старшыня Рэспубліканскага савета Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектронікі Генадзь Фядыніч, «Радыёдэталь» — зусім не банкрут. У прадпрыемства шмат даўжнікоў, з іх найбуйнейшы — Мінскі трактарны завод (МТЗ), які спажывае прадукцыю ашмянскага завода ў якасці камплектуючых. Паводле словаў Фядыніча, МТЗ павінен быў пералічыць «Радыёдэталі» грошы, каб ашмянскі завод змог пагасіць свае даўгі перад энергетыкамі. Аднак падзеі ў Мінску 28 верасня, калі на МТЗ успыхнула стыхійная забастоўка ў сувязі з затрымкай зарплаты, унеслі свае карэктывы ў сітуацыю: усе грошы пайшлі на выплату заработнай платы рабочым трактарнага завода.

Вымушаны прастой «Радыёдэталі», лічаць у прафсаюзе радыёэлектронікі, толькі ўскладніць яго фінансавае становішча. Акрамя таго, гэта пагражае праблемамі і для МТЗ, які пазбавіцца паставак камплектуючых.

**Наталля КУЛАГІНА**

# Памочнік з «падмочанай» рэпутацыяй

Аляксандар Лукашэнка прызначыў сваім памочнікам у пытаньнях фізкультуры, спорту й турызму Мікалая Ананьева. Таго самага Ананьева, які два гады таму назад падазраваўся ў карупцыі й быў адпраўлены Лукашэнкам у адстаўку з пасады міністра спорту й турызму.

Гэта ўжо другое прышэсьце Мікалая Ананьева ў бліжэйшае атачэньне Лукашэнкі. Прычым, на адну й тую ж пасаду. Кар'ерны ўзьлёт старшыні камітэту па фізкультуры, спорту й турызму Магілеўскага аблвыканкаму пачаўся ў 1997 годзе.

Менавіта тады, дзякуючы магілеўскім караням, ён апынуўся ў Менску на пасадзе памочніка Лукашэнкі па фізкультуры й спорце. А літаральна праз год спадар Ананьеў узначаліў адмысловае міністэрства. Аднак і на гэтай пасадзе ён доўга не пратрымаўся. Увесну 1999 году распачаўся скандал вакол Алімпійскага фонду Беларусі. Дырэктар гэтага фонду Валянцін Філіповіч быў арыштаваны ў момант атрыманьня хабару ад прадстаўніцы камэрцыйнай фірмы «Лавіком» Тацяны Лукашовай . За 1900 даляраў ЗША спадар Філіповіч абяцаў выдзеліць фірме гандлёвае месца ў менскім Палацы спорту.

Падчас сьледзтва спадар Філіповіч заявіў, што перадаваў частку грошай, а таксама шампанскае да навагодняга стала Мікалаю Ананьеву, паколькі Палац спорту падпарадкоўваўся ягонаму міністэрству. Міліцыянты нават правялі ў службовым кабінэце тагачаснага міністра Ананьева ператрус. Узьнік скандал, і Лукашэнка звольніў Ананьева зь міністэрскае пасады. Праўда, канчаткова «здаваць» свайго памочніка Лукашэнка не пажадаў. На судовым працэсе ў справе Алімпійскага фонду Ананьеў ужо быў толькі сьведкам.

Увогуле, пра гэты скандал хутка забыліся й Ананьеву знайшлі «цёплае месца» намесьніка начальніка апарату прадстаўніцтва гэтак званага парлямэнцкага сходу Саюзу Беларусі й Расіі.

Нядаўна вызвалілася пасада памочніка Лукашэнкі па фізкультуры й спорце. Колішні памочнік Цяцерын, які вучыў Лукашэнку гуляць у тэніс, адпраўлены ў адстаўку ў сувязі зь пераводам на іншую працу. А вакантную пасаду Лукашэнка зноў даверыў Мікалаю Ананьеву. Ён хоць чалавек і з «падмочанай» рэпутацыяй, але ж свой, магілеўскі.

**Ян МІКАЛАЕЎ**
**Радыё «Рацыя»**

**ПАМЯЦЬ**

## «Дзяды» ў Курапатах

3 кастрычніка група грамадзянаў, сярод якіх прадстаўнікі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі - БНФ, падала ў Мінгарвыканкам і Мінаблвыканкам заяўкі на правядзенне 28 кастрычніка шэсця ў Мінску і мітынга ў Курапатах.

Акцыя прымеркаваная да Дня памяці продкаў «Дзяды». Як зазначаецца ў заяўцы, яе мэта — ушанаваць памяць ахвяраў «камуністычна-імперскіх рэпрэсіяў». Збор удзельнікаў акцыі запланаваны ў 11.30 у скверы на бульвары Талбухіна, ля станцыі метро «Парк Чалюскінцаў». Шэсце па праспекце Францыска Скарыны ў бок Курапатаў павінна распачацца ў 12 гадзінаў, а мітынг плануецца правесці з 15 да 17 гадзінаў.

**Наталля КУЛАГІНА**

**РАЗВІТАННЕ**

## З'ехаў нямецкі амбасадар

4 кастрычніка цяпер ужо былы амбасадар ФРГ у Мінску Хорст Вінкельман пакінуў Беларусь. Ужо 6 кастрычніка яму на змену прыбывае 62-гадовы доктар Вільгельм Фрык. А 2 кастрычніка спадар Хорст Вінкельман падвёў вынікі трохгадовай працы на пасадзе амбасадара ў Беларусі.

Х.Вінкельман быў прызначаны на гэтую пасаду і прыехаў у Мінск у траўні 1998 года – якраз перад самым скандалам у Драздах. У чэрвені ён разам з іншымі дыпламатамі краінаў Еўрасаюза ды ЗША ў знак пратэсту супраць высялення рэзідэнцыяў замежных дыппрадстаўніцтваў з Драздоў пакінуў Беларусь і вярнуўся сюды толькі ў студзені 1999 года.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці знаходжання ў Мінску, Хорст Вінкельман выказаў шкадаванне развітаннем з Беларуссю. «Пасля такога тэрміну працы я вельмі шкадую, што трэба з'язджаць. Я палюбіў вашую краіну, у мяне тут з'явілася шмат знаёмых і нават сяброў. Таму вельмі цяжка развітвацца», – падкрэсліў былы амбасадар.

На драздоўскім скандале спадар Вінкельман спынуўся асобна. «Калі адбылася гэтая гісторыя з Драздамі, я быў вельмі раззлаваны. Гэта не вельмі прыемна, прыйшлося цэлую ноч пакаваць рэчы, чамаданы. Натуральна, я б з большым задавальненнем уначы спаў. Тым больш, не ведаў, куды гэтыя рэчы падзець, яны стаялі проста на двары рэзідэнцыі. Я чуў, пра гэта ўжо напісалі ў літаратуры, але я на гэта ўжо забыўся... Я думаю, гэта вельмі добра – быць дыпламатам. Але заўсёды задаеш пытанне: што будзе далей? І, вядома, трэба задаваць пытанне – чаму гэта здарылася? Як і каму магла прыйсці ў галаву такая думка -- выкінуць адначасова некалькі дыпламатаў з іхніх рэзідэнцыяў? І калі пачынаеш думаць пра гэта, усё пачынаеш разглядаць дыферэнцавана...», – сказаў Х.Вінкельман.

Нягледзячы на «белыя плямы», ці, правільней, на «чорныя плямы», у беларуска-нямецкіх адносінах, Хорст Вінкельман спадзяецца на іхняе паляпшэнне. Са спасылкай на атрыманую з урадавых колаў інфармацыю спадар Вінкельман сказаў, што А.Лукашэнка гатовы як мага хутчэй сустрэцца з новым амбасадарам Вільгельмам Фрыкам і прыняць даверчыя граматы.

Спадар Вінкельман спадзяецца і на тое, што Кансультатыўна-наглядальная група АБСЕ ў Мінску на чале з нямецкім дыпламатам Хансам-Георгам Вікам працягне працаваць, што, відаць, таксама мусіць садзейнічаць двухбаковым стасункам.

Хорст Вінкельман станоўча ацэньвае эканамічнае супрацоўніцтва паміж краінамі – у якасці станоўчага прыкладу ён узгадаў стварэнне сумеснага прадпрыемства «МАЗ-МАН» і кандытарскую фабрыку «Вітас» у Віцебску, у якую германскія бізнесмены ўклалі 16 мільёнаў марак.

Аднак эканамічныя ўзаемаадносіны маглі быць куды лепшымі, калі б нямецкія бізнесмены мелі нейкую ўпэўненасць у стабільнасці на Беларусі, у прыватнасці, стабільнасці заканадаўчай. «Галоўная праблема для патэнцыйных нямецкіх інвестараў — гэта тое, што ўмовы пастаянна мяняюцца. З'яўляюцца новыя ўказы, дэкрэты, заканадаўства змяняецца. А інвестар мусіць мець упэўненасць, што існуючыя рамкі, умовы, законы будуць дзейнічаць без зменаў хаця б гадоў пяць», — падкрэсліў былы амбасадар.

Ацэньваючы стан беларускай эканомікі, Хорст Вінкельман сказаў: «Па маіх назіраннях, эканамічнае становішча не палепшылася, людзі таксама не сталі жыць лепш, але краху няма. Таму для мяне ваша эканоміка – загадка. Калі я езджу па вашай краіне, бачу, што шмат будуюць, бачу фабрыкі, якія вырабляюць вельмі якасныя тавары, і калі знаёмлюся з лічбамі, эканамічнымі паказчыкамі, у мяне ўзнікае пытанне: а ці няма ў вас ценевай эканомікі?».

Пасля Беларусі дыпламат атрымаў прызначэнне амбасадарам у Нарвегію.

**Рыгор БУЯН**

**ЭКАНОМІКА**

## Беларусь – рэкардсмен па інфляцыі

Статыстычны камітэт Садружнасці незалежных дзяржаваў падлічыў тэмпы інфляцыі на спажывецкім рынку ў 11 былых савецкіх рэспубліках за перыяд студзень-жнівень 2001 года. У выніку Беларусь апынулася наперадзе.

Паводле статыстыкі, цэны на спажывецкім рынку Беларусі падвысіліся за восем месяцаў на 25,3%. З іх харчовыя тавары падаражэлі на 24%, нехарчовыя – на 17,7%, платныя паслугі для насельніцтва сталі даражэйшымі амаль на палову – на 45,7%.

Дарэчы, Беларусі ўдалося практычна ўдвая абысці Расію, дзе інфляцыя на спажывецкім рынку склала 13,2%.

Але не толькі тут Беларусь аказалася першай. Характэрна, што тэндэнцыя імклівага росту цэнаў на тавары і паслугі захоўваецца не першы год. Статкамітэт СНД параўнаў індэксы спажывецкіх цэнаў у студзеніжніўні 2001 года з леташнім перыядам. І зноў Беларусь – наперадзе. Спажывецкія цэны падвысіліся амаль на 71%, што таксама з'яўляецца абсалютным рэкордам. Астатнія краіны – далёка ззаду. Глядзіце самі: Азербайджан – 1,7%, Арменія – 3,4%, Грузія –5,8%, Казахстан – 9%, Кыргызстан – 8,4%, Малдова – 12%, Расія (тут параўноўваліся жнівень-2001 і жнівень-2000) – 20,9%, Таджыкістан – 48,2%, Украіна – 15,0%. Дадзенымі па Туркменістану і Узбекістану статыстычнае ведамства Садружнасці не валодае.

Як бачым, у іншых краінах былога СССР падвышэнне цэнаў – справа экзатычная, не тое, што ў Беларусі. Нават у Таджыкістане, краіне, закатаванай грамадзянскай вайной і засухамі, цэны растуць не так хутка, як у нас. Беларусь апынулася рэкардсменкай па інфляцыі – і гэта той самы выпадак, калі хацелася б быць апошнім, а не першым.

**Міхась КАРПОВІЧ**

